

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 11(396)** **17 САКАВІКА 1999 г.**

# 25 сакавіка 81-я ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі

## Незалежнасць — гэта ...

**Незалежнасць — гэта** калі ты з'явішся на свет у радзільні, дзе няма самых стэрыльных на зямлі савецкіх прусакоў, затое ёсць аднаразовыя шпрыцы і пялюшкі.

**Незалежнасць — гэта** калі твой бацька пойдзе ў ЗАГС, каб атрымаць дакумент, што ты сапраўды нарадзіўся і што цябе назвалі ў гонар дзеда Рыгорам, і кабета, якая сядзіць там, спакойна выпіша яму гэты дакумент, а не выцягне са стала "Справочник личных имен народов СССР" і не будзе, размахваючы ім, істэрычна тлумачыць твайму бацьку, што ён можа без праблемаў назваць сына Файзулой ці нават Мамаем, а вось Рыгорам — не можа, бо такога імя проста не існуе ў прыродзе (а существует нормальное человеческое имя Григорий).

**Незалежнасць — гэта** калі ты пойдзеш у школу і цябе будуць вучыць на тваёй мове і дзеля гэтага тваім тату і маме не трэба будзе ўсё лета збіраць па кватэрах заявы бацькоў, якія не тое каб не хацелі вучыць сваіх дзяцей так, як твае тата і мама, а проста ніколі пра гэта не думалі, бо выраслі пры інтэрнацыяналізме.

**Незалежнасць — гэта** калі твая дружына не будзе змагацца за права насіць імя Паўліка Марозава ці Аляксандра Мяснікова, бо ўсе вы цудоўна ведаеце, як любіў свайго татку Паўлік і як любіў беларусаў Мяснікоў.

**Незалежнасць — гэта** калі ты будзеш служыць у войску не далей за памежныя горад ці вёску твае зямлі, затое табе ніколі не загадаюць фарбаваць траву і прыбіраць тэрыторыю "вот отсюда и до обеда". У нядзелю ты зможаш прыехаць да бацькоў ці да свае дзяўчыны, затое ніхто не назаве цябе "бульбашом", а твайго сябра — "черножопым" за тое, што вы думаеце і гаворыце ў сне па-свойму, і табе ніколі не згадаюць гастрыць сапёрную рыдлёўку, каб акапацца ў Баку ці ў Тбілісі.

**Незалежнасць — гэта** калі твая дзяўчына кажа, што хоча на выхадныя ў Вену, і ты з чыстым сумленнем абяцаеш ёй, што ў суботу вы вып'яце кавы насупраць палаца Шонбрун, і ведаеш, што перад вашаю вандроўкаю ніхто не будзе высвятляць у цябе, ці быў ты ў дзяцінстве габрэем, а таксама, ці быў ты раней за мяжою і калі вярнуўся адтуль, дык з якой мэтай.

**Незалежнасць — гэта** калі на Дзяды, у Дзень памяці продкаў, ты ідзеш на могілкі і ведаеш, што паставіш там свечку і пакладзеш кветкі, а не станеш удзельнікам выпрабавання балёнчыкаў з нервова-паралітычным газам ці новае мадэлі гумовага дручка.

**Незалежнасць — гэта** калі твой сын прынёс са школы пяцёрку па гісторыі, і ты хваліш яго за гэтую пяцёрку, бо ведаеш, што ён атрымаў яе не па тым прадмеце, дзе вучаць пра Лядовае пабоішча і перамогу калектывізацыі, а па тым, дзе вучаць пра Грунвальдскую бітву, якая ўратавала твой народ ад смерці, і кажуць праўду пра ўладу, што расстраляла твайго дзеда і задушыла голадам тваю бабулю.

**Незалежнасць — гэта** калі да цябе завітае беларускі спявак з Нью-Ёрку, і ты вып'еш з ім добрую чарку вішнёўкі, і пасля ветлівыя дзядзькі ў цывільным не запрапануюць табе падрабязна напісаць, дзе і што вы пілі і каго пры гэтым лаялі.

**Незалежнасць — гэта** калі ты пазбаўлены магчымасці пачуць, як твой прэзідэнт вучыць з экрану суайчыннікаў: "Хто как хаціт, той так і гаварыт", бо твой прэзідэнт — чалавек пісьменны і хоць адну мову ўсё ж ведае.

**Незалежнасць — гэта** калі ніхто не страшыць цябе, што твой народ не зможа выжыць без вялікага старэйшага брата, бо не мае сваіх баксітаў ці алмазаў, і ты разумееш, што зусім дарэмна шкадаваў гарапашных галандцаў ці бельгійцаў, якія не маюць ні баксітаў, ні алмазаў, ні нават старэйшага брата.

**Незалежнасць — гэта** калі на Божай пасцелі ведаеш, што пасля таго, як ты памяняеш гэты свет на лепшы, на месцы царквы ці касцёла, дзе цябе хрысцілі і дзе ты вянчаўся, не выкапаюць сажалку з брудным лебедзем і не пабудуюць басейн імя ХУІІІ з'езду КПСС, а могілкі, дзе будуць спачываць твае косці, не знясуць і не ператвораць у закіданы пустымі пляшкамі парк культуры і адпачынку імя таварыша Гарбачова.

**Незалежнасць — гэта ...**

**Незалежнасьць — гэта** калі ад нараджэння да скону пачуваешся сваім чалавекам на сваёй зямлі.

Я веру, што калі-небудзь так будзе.
Бо інačай проста не варта жыць.

*Люты, 1990г.* *Уладзімір Арлоў.*

## ПРЫДЗЕ ЧАС

Дазвольце праз газету выказаць шчырую ўдзячнасць усім , хто дапамог мне арганізаваць падпіску на "Наша слова" для практычна ўсіх школ і ПТВ Столінскага раёна. На працягу 4-х месяцаў 53 калектывы навучальных установаў Століншчыны будуць атрымліваць бясплатна "Наша слова", а таксама на працягу 3-х месяцаў (з сакавіка па май) - "Народную Волю". Асаблівую ўдзячнасць хачу выказаць вядомаму беларускаму мастаку Міхасю Навумовічу, які жыве ў Францыі і дапамог сабраць сродкі для гэтай высакароднай акцыі.

Сёння, калі беларускае слова не карыстаецца пашанай у калідорах улады, кожны крок, скіраваны на пашырэнне яго ўжытку, заслугоўвае адзнакі. Асабіста ў мяне няма сумневу, што ў хуткім часе палітычная сітуацыя на Беларусі кардынальна зменіцца, і ўсе тыя, хто бэсціў беларускую мову і ўпарта "баяўся" нацыянальных гістарычных сімвалаў Беларусі, зноў апынуцца ў першых шэрагах чарговага беларускага Адраджэння. Але на гэты раз новае пакаленне маладых беларускіх палітыкаў, да якога я залічаю і сябе, не дазволіць ператварыць Беларускае Адраджэнне ў "чарговую кампанію беларусізацыі на Беларусі". Нацыянальнае Беларускае Адраджэнне стане адной з галоўных частак доўгатэрміновай дзяржаўнай палітыкі ў галінах адукацыі, культуры і навукі. У выніку такой палітыкі кожны грамадзянін Беларусі ўсвядоміць, што жыць на Беларусі, не ведаючы яе гісторыю, культуру, а таксама мову прынамсі, нямёка.

**ПАВЕЛ ЗНАВЕЦ** - дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13 склікання па Давыд-Гарадоцкай выбарчай акрузе.

Ахвяраваў на "Наша слова" 500.000 рублёў.

## ЗВАРОТ

### Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта "Беларусь — 2000 гадоў" да беларускай грамадскасці

Суайчыннікі! Браты і Сёстры!

Мы з вамі жывём на мяжы тысячагоддзяў. Хутка на нашу зямлю прыйдзе 2000 год, які завершыць другое тысячагоддзе і адкрые шлях у новую гістарычную эпоху. Прыпынімся на гэтым гістарычным скрыжаванні, адарвёмся ад будзённых справаў, адчуем, што мы — Народ Беларусі — маем з чым ісці ў будучыню.

Зазірнем у глыбіню вякоў, ушануем наша гераічнае і трагічнае мінулае, лепшых сыноў і дачок Бацькаўшчыны, выдатныя падзеі нашай гісторыі, каб памяць пра іх паўсюдна нагадвала сённяшнім грамадзянам Беларусі, што жывуць яны ў старажытнай краіне. На высокіх прыкладах і запаветах нашых продкаў будзем выхоўваць нацыянальную годнасць, пачуццё любові да Радзімы.

Нацыянальны грамадскі арганізацыйны камітэт выступае з ініцыятываю адзначыць завяршэнне другога тысячагоддзя ў нацыянальным маштабе.

Камітэт падрыхтаваў "Слова да народа Беларусі. Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржаўнасці". У ім зроблены праўдзівы агляд нашай гісторыі, выказаны думкі пра месца беларусаў сярод народаў свету.

Камітэт распрацаваў і прапануе для ажыццяўлення Праграму "Беларусь — 2000 гадоў". Асноўны змест дакумента скіраваны на тое, каб ушанаваць нашы здабыткі на гістарычным шляху. Неабходна зрабіць так, каб наша краіна мела сапраўднае аблічча старажытнай дзяржавы з багатай гістарычнай спадчынай. Пра гэта павінны сведчыць кнігі, помнікі, мемарыяльныя дошкі, памятныя знакі, фільмы і ўсе іншыя сродкі патрыятычнага выхавання. Праграма разлічана на перспектыву, але пачнём яе выконваць ужо сёння.

Кожны грамадзянін Беларусі і беларусы замежжа могуць знайсці ў Праграме сваё месца, абраць для сябе справу па душы. Настаўнікі, краязнаўцы, гісторыкі, журналісты, падрыхтуйце артыкулы на гістарычныя тэмы, даследуйце гісторыю роднага краю, арганізоўвайце цыклы лекцый, школьныя ўрокі, турыстычныя паездкі па гістарычных мясцінах Беларусі! Дзеячы культуры, сілаю свайго таленту праз мастацкія творы спрыяйце абуджэнню нацыянальнай годнасці, выхоўвайце павагу да гістарычнага мінулага!

Заклікаем грамадскасць Беларусі, дзяржаўныя структуры, кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый далучыцца да нашай ініцыятывы. Кожная вобласць, раён, горад могуць стварыць свае грамадскія арганізацыйныя камітэты, устанавіць кантакты з нашым Камітэтам і на сваёй радзіме ўспомніць выдатныя падзеі і славутых людзей (адрас для кантакту: 220050 г.Менск, вул Рэвалюцыйная 15, тэл/факс 276 91 94).

Беларусь павінна выглядаць не толькі старажытнаю, але і цывілізаванаю сучаснаю еўрапейскаю дзяржаваю. Будзем памятаць пра свой абавязак ўпарадкаваць, падтрымаць у належным стане жыццёвае асяроддзе, абараняць родную прыроду, нашы цудоўныя лясы, рэкі, азёры. Экалагічная сітуацыя ў Беларусі патрабуе ўвагі грамадства, будзем клапаціцца пра захаванне чысціні навакольнага асяроддзя, як найпершай умовы годнага жыцця.

Сумеснымі намаганнямі ўсёй беларускай грамады мы зможам аднавіць нашу гістарычную памяць, як падмурак да лепшага жыцця ў будучыні.

Яднаймася, каб захаваць нашу беларускую нацыю і дзяржаву ў новым тысячагоддзі!

22.02.1999г.

**Сустаршыні Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта:**
**Радзім Гарэцкі**, акадэмік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і Расейскай акадэміі навук, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына";
**Алесь Петрашкевіч**, драматург, кандыдат гістарычных навук.

**Адказны сакратар:**
**Ганна Сурмач**, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

**Сябры Камітэта:**
1. Адамовіч Яўген, кандыдат філалагічных навук, прафесар Беларускага універсітэта культуры
2. Акаловіч Леанід, старшы выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка
3. Аксак Валянціна, журналістка;
4. Антонава Таццяна, журналістка;
5. Арлоў Уладзімір, пісьменнік;
6. Белы Анатоль, старшыня клуба "Спадчына";
7. Біч Міхась, доктар гістарычных навук, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі НАН Беларусі;
8. Брыль Янка, народны пісьменнік Беларусі;
9. Бураўкін Генадзь, паэт, старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны;
10. Быкаў Васіль, народны пісьменнік Беларусі;
11. Вярцінскі Анатоль, паэт, публіцыст;
12. Гілевіч Ніл, народны паэт Беларусі, прафесар;
13. Гіпель Уладзімір, старшыня Беларускага Фонда культуры;
14. Грыцкевіч Анатоль, доктар гістарычных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай Акадэміі Еўразіі і інш.

Усяго 62 подпісы.



№ 11(396) 17 САКАВІКА 1999 г. наша слова

# Ані "подыху" нашага часу

Прыйшла мне ў галаву задумка — пацікавіцца ў маладых чытачоў Слуцкай гарадской бібліятэкі, што запаўняюць чытальную залу "пад завязку" ў суботу і нядзелю, каго з сёняшніх беларускіх паэтаў, празаікаў яны ведаюць, якія іх творы чыталі. Чаму толькі маладых? Бо людзей сталага ўзросту, тым болей пенсіянераў, тут рэдка ўбачыш. І вось падыходжу да стала, называю сваё прозвішча, паказваю журналісцкае пасведчанне і прашу адказаць на ўпамянутыя вышэй пытанні. Умова такая: суразмоўца павінен назваць толькі сваё імя і прафесію.

Пытанне задаю па-беларуску.

Вольга вучаніца адзінаццатага класа:

— Знаю Янку Купалу і Якуба Коласа. Больше — не припомню.

— Але ж гэта класікі беларускай літаратуры старэйшага пакалення, — заўважаю я. У адказ — пацепванне плечыкамі і ўхмылка на ружовым тварыку.

Сяброўка Вольгі за сталом — Вера, таксама адзінаццацікласніца:

— Никаво не назову — не читала.

Вераніка, дзесяцікласніца. З паўхвіліны думала, прыжмурваючы сінія вочкі:

— Кандрата Крапіву і Максіма Багдановіча читала кое-что.

Проходили их по программе.

І то добра. Прашу ўспомніць хоць аднаго сённяшняга паэта, вершы якога друкуюцца ў літаратурных часопісах, незалежных газетах.

— Извините, не назову, я их не читаю, некогда.

І сядзеўшая побач з Веранікай сяброўка дала такі ж адказ.

Няўжо няма ў зале хоць аднаго вучня — старшакласніка, які б быў хоць крапельку нацыянальна свядомы, чыя б душа гарнулася да твораў нашых пісьменнікаў?

Алена, дзесяцікласніца, нарэшце, абрадавала:

— Читала стихи Таисы Бонадар, Нила Гилевича. Понравились. А еше — наших слуцких поэтов — Кости Цыбульского, Зои Подлипской, у них уже книжки стихов вышли. Зоя работает преподавательницей белорусского языка и литературы в нашей десятой школе.

А вось трое апытаных вучаніц з гэтай жа школы не назвалі ніводнага прозвішча сучаснага беларускага паэта ці празаіка.

Падыходжу да стала, за якім схіліўся над канспектамі (дарэчы, большасць наведвальнікаў чытальнай залы прыходзяць не столькі для знаёмства з навінкамі літаратуры, колькі для падрыхтоўкі ўрокаў, напісання сачыненняў, курсавых работ) малады чалавек. Мікалай, студэнт-завочнік аднаго з менскіх тэхнікумаў:

— Могу назвать: Якуб Колас. Из нынешних? Что-то не припомню. Извините, я спешу, надо закончить сочинение.

Адчуваю, як знікае жаданне ісці далей, апытваць новых чытачоў, таму што ў іх адказах — ані "подыху" нашага часу, тых змен, што адбыліся ў краіне пасля набыцця ёю незалежнасці, надання ў 1990 годзе беларускай мове статуса дзяржаўнай. Такія адказы, напэўна, я пачуў бы і 10, і 20 гадоў таму. Што тут здзіўляцца: пасля сумнавядомага рэферэндуму 1995 года настаўнікі ва ўсіх дванаццаці школах горада, за выключэннем выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, размаўляюць з вучнямі ў класе па-расейску, нават, калі падручнікі па біялогіі ці геаграфіі яшчэ беларускамоўныя. Дома бацькі, сябры на вуліцы — таксама грэбуюць, як і ўсе дзяржчыноўнікі, беларускай мовай.

Але вернемся ў чытальную залу. Бібліятэкаркі тут шмат папрацавалі, каб прыцягнуць увагу наведвальнікаў да твораў сучасных беларускіх паэтаў і празаікаў, не кажучы ўжо пра класікаў 20-30 гадоў. На вітрынах-стэлажах уздоўж сцяны, навідавоку раскладзены часопісы "Полымя", "Маладосць", "Беларусь", "Нёман", "Беларуская думка", "Спадчына", "Крыніца", "З гістарычнага мінулага", а таксама кніжкі вершаў, у тым ліку і сваіх, слуцкіх, паэтаў. Ёсць нават дасланая сюды з Мазыра кніжка вершаў тутэйшай паэткі Ніны Аксёнчык "Беларусь укрыжаваная". Цэлая "галярэя" кніжак вядомых паэтаў на абанеменце, на чацвёртым паверсе — Уладзіміра Някляева, Яўгена Гучка, Галіны Каржанеўскай, Валянціны Аколавай, Ніны Маеўскай, Васіля Макарэвіча. Працягні руку — і бяры, чытай, спасцігай увесь непаўторны лірызм, мілагучнасць, усё багацце роднай мовы! На жаль, рэдка хто з маладых падыходзіць да гэтых стэлажоў (не гаворачы ўжо пра паліцы, дзе выбар прозы і паэзіі яшчэ большы(, што бачна па амаль пустых лістках, застаўленых у "кішэнькі" кніжак на другой старонцы вокладкі. Той жа Ніны Аксёнчык "Укрыжаваную Беларусь" не запатрабаваў за два гады ні адзін чытач! Як тут не ўспомніць апякаючыя душу і сёння бессмяротныя радкі верша Ларысы Геніюш:

***Сёння на пласе родная мова,***
***Вырваць жывую***
***належыць з агню,***
***Слова "кахаю" —***
***тут слабае слова,***
***Мужнае слова — абараню".***

І яшчэ. Мусіць, прычына абыякавасці вучняў — старшакласнікаў да твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў не толькі ў тым, на якой мове яны вучацца ў школе, а і ў іх душах, сэрцах— як яны горнуцца да роднага слова, да гісторыі, культурнай спадчыны свайго народа. Бо ў канцы XIX стагоддзя паэты - дэмакраты Францішак Багушэвіч і Янка Купала таксама вучыліся ў расейскіх школах, таму як беларускіх не было, а родную мову любілі і шанавалі, стваралі на ёй цудоўныя творы, якія і сёння саграюць нашы сэрцы.

*Міхась Тычына, г.Слуцк.*

**Насустрач VI з'езду ТБМ**

## Інтэрвію з кіраўніком Рады ТБМ Цэнтральнага р-на г.Менска Мухінай Леанардай Станіславаўнай

***1. Якія адносіны ўлад да дзейнасці Рады раёна?***

— Адносіны ўлад да дзейнасці ТБМ такія ж, як і да беларускай мовы. Робіцца ўсё, каб знішчыць мову. Гэта яскрава бачна на прыкладах знішчэння беларускіх класаў. Былі заменены на пасадах загадчык РАА і дырэктар школы са статусам беларускай і адразу зніклі беларускія класы. Загадчыкам РАА быў назначаны дырэктар СШ № 95 Канзас Ю.Э., які, пасля рэферэндуму, змог перавесці на расейскую мову навучання ўсе класы з 1-га па 7-мы.

***2. Які сацыяльны склад арганізацыі?***

— Большасць сяброў ТБМ раёна маюць вышэйшую, або сярэднюю адукацыю.

***3. Ці можа, на Ваш погляд, ТБМ уздзейнічаць на палітычныя працэсы і якім чынам?***

— Так, калі сябры будуць больш актыўнымі. Зараз беларуская мова — гэта палітыка.

***4. Планы ТБМ раёна на наступны год?***

— Больш супрацоўнічаць са школамі, бібліятэкамі. Праводзіць там вечарыны, сустрэчы з вядомымі беларусамі і, безумоўна, пікеты на вуліцах.

***5. Вашы адносіны да газеты "Наша слова": пажаданні яе чытачам?***

— Толькі станоўчыя. Мы пастаянна падпісваем на газету ўсе школы раёна.

А чытачам газеты -- памятаць, што мы жывем на сваёй зямлі, маем сваю Мову.

*Т.Антончык.*

# "З чужой моўнай практыкі..."

Працяг

**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

***Задзіраць (задзерці) нос — а не драць нос.*** Устойлівае словаспалучэнне (фраза) ***задзіраць (задзерці) нос*** значыць ***"заганарыцца, зазнацца".*** З гэткім значэннем выступае таксама ***задраць галаву*** (Гл. ТСБМ. Т.2.Мн., 1978.С.310). Гэтакае значэнне вынікае з першаснага ***задзерці (задзіраць) нос (галаву) — "падняць уверх".*** А вось што значыць ***драць нос*** — няведама, бо дзеяслоў ***драць*** не мае значэння ***"падымаць уверх".*** Відаць, яго механічна перанеслі ў беларускую частку слоўніка з расейскай. (Гэта асабліва практыкавалася ў 80-х гадах). Таму ў БРС-88 (Т.І.С.388) бачым: ***"Драць, драць нос — драть нос".*** А вось "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы і П. Глебкі (М.,1953.С.127) не падае такога фразеалагізма (а толькі ***драць горла*** і ***драць тры шкуры***). Іншыя фразеалагізмы з кампанентамі ***нос*** і ***галава*** маюць прыстаўкавы дзеяслоў ***задраць: задраць (задзерці) галаву, задраць нос*** (РБС-82. Т.І. С.258, РБС-93. Т.І.С.455).

***Па шчупаковай волі — а не па шчупаковаму загаду.*** У "Беларуска-рускім слоўніку" (Т.І.Мн.,1988.С.429) чытаем: ***"Загад.., па шчупаковаму загаду — по щучьему велению".*** Якая штучнасць?! Нібы шчупак піша загады?! А сама сінтаксічная канструкцыя? Яна таксама небеларуская: ***" па + словаформы*** (назоўніка і дапасаванага да яго прыметніка) давальнага склону". Беларускай мове яна неўласцівая: прыназоўнік ***па*** кіруе ў беларускай мове месным (і вінавальным) склонам: ***па загадзе, па лесе, па горадзе, па лёдзе...***

Пра небеларускасць гэтага ***"па шчупаковаму загаду"*** няраз зазначалася ў друку. І вось у "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн.,1996.С.766) шчасліва бачым натуральны яго адпаведнік: ***"Па шчупаковай волі або па шчупакова казанне (само сабою, як бы дзякуючы чарадзейству)"...***

***Расказ, апавяданне і — расповед, аповед.*** У сучасным перыядычным друку актыўна выкарыстоўваюцца словы ***апавядаць, распавядаць*** і ўтворныя ад іх назоўнікі — ***аповед (аповяд) і расповед.*** "Яго ***расповеды*** сталі асновай чарговай брашуры" (Беларускі гістарычны агляд. Т.4. Мн., 1997. С.215). Лірычны ***аповед*** кампазітара (Лім. 20. 02. 1998). Асноўная маса сюжэтаў кнігі Платонава — аналітычны ***аповед*** пра трагічны лёс палітычнай эліты Савецкай Беларусі (Беларускі гістарычны агляд. С.286). Але я вам ***распавядала*** пра любоў (Полымя. 1998.№4.С.19). Герой нашага ***аповеду*** Іван Баранкевіч (Лім.1998.7.08.1998.С.16).

Часам чуюцца галасы-пратэсты супраць гэтых словаў. Але спроба забараніць іх — марная. Ёсць жа ў нас цэлае гняздо такіх аднакаранёвых словаў. Напрыклад, у "Беларуска-рускім слоўніку" пад рэдакцыяй К.Крапівы (Т.І.Мн., 1988. С.128) чытаем: ***"Апавядальнасць ж -повествовательность; апавядальнік м.-рассказчик, повествователь; апавядальніца ж. — рассказчица, повествовательница; апавядальны — повествовательный; апавяданне ср.1. рассказ м., повествование; 2. (жанр) рассказ м.; апавядацца — рассказаться, повествоваться; апавядаць несов. рассказывать;"*** ***апавесць*** ды іншыя. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.І.Мн.,1977.С.240) засведчыў слова ***апавядаць*** з значэннямі ***" расказваць, апісваць; паведамляць аб чым-небудзь".*** І падаецца ілюстрацыя выкарыстання гэтага слова — з трылогіі Якуба Коласа "На ростанях": "Турсевіча вельмі насмяшыла адно здарэнне на чыгунцы, і аб гэтым ***апавядаў*** ён цяпер Лабановічу".

Ад слова ***апавядаць*** нульсуфіксавым спосабам утварыўся назоўнік ***аповед*** (ці ***аповяд*** - з галоснай ***я***, як у слове ***апавяданне***, хоць арфаграфічна гэта памылковае напісанне: у паслянаціскным складзе каранёвае ***е*** захоўваецца; параўн. ***аповесць***), відаць, у варунках моды на больш кароткія словы ці для размежавання розных значэнняў слова ***апавяданне***: працэсаве ***аповед*** і 2) значэнне жанру — ***апавяданне.*** Параўн. ***апойваць (цца)***: 1) ***апой*** (ветэрын. тэрмін) і 2) ***апойванне.***

Ад ***апавядаць*** узніклі на ўзор ***расказваць (расказаць)*** і прыстаўкавыя ўтварэнні: ***распавядаць*** (незак.) і ***распавесці*** (зак.трыванне). Ад гэтага прыстаўкавага ***распавядаць*** нульсуфіксавым спосабам утварылася ***расповед*** (і ненарматыўны арфаграфічны варыянт ***расповяд***; як і ***аповяд***).

Як бачым, мова папоўнілася сінанімічнымі сродкамі з больш эканомнай структурай — нульсуфіксавымі ўтварэннямі, якія ў наш час надта актыўна выкарыстоўваюцца ў мове (***спадзеў, сумнеў, супраціў, напой, выстава, перадрук, (баявы) хрост*** ды падобныя).

***Дэпартаваць — а не дэпартыраваць.*** "Удзельнікаў міжнароднага маршу "За бязатамную Беларусь" ***дэпартыравалі*** з Быхаўскага раёна" — назва артыкула ў газеце "Народная воля" за 08.08.1998г. Супрацоўнікі газеты, відаць, самі стварылі гэтае слова (таму і напісалі яго ў двукоссі) пры перакладзе расейскамоўнаму тэксту (***депортировали***). Аднак яны парушылі тут два законы беларускай мовы: 1) у іншамоўных словах зычны гук ***д*** перад суфіксам ***-ір- (-ірава-)*** памякчаецца: ***каманда і камандзір, камандзіраваць***; 2) іншамоўныя назоўнікі на ***-ацыя*** і аднакаранёвыя дзеясловы маюць супольную аснову, да якое далучаецца ў беларускай мове спрадвечнабеларускі дзеяслоўны суфікс ***-ава- -ява-***): ***дэманстрацыя > дэманстраваць, дэгустацыя > дэгуставаць, дэзактывацыя > дэзактываваць.*** Таму і ў нашым выпадку: ***дэпартацыя>дэпартаваць.*** Слова ***дэпартаваць*** не падае ніводны слоўнік, у іх знаходзім толькі: ***депортация — дэпартацыя.*** Яго няма нават і ў такім нарматыўным даведніку, як "Слоўнік беларускай мовы. Арфаграфія. Арфаэпія. Акцэнтуацыя. Словазмяненне" (Мн.: Бел СЭ. 1987).

На шчасце, яго падае ўжо "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1996.С.194): "***Дэпартаваць*** ... зак. і незак., каго (што) (спец.). ***Выгнаць (выганяць), выдаліць (-ляць)*** з краіны // назоўнік ***дэпартацыя***, -і, ж." Тут бачым дзеепрыметнік ад гэтага дзеяслова: ***дэпартаваны.*** А ў артыкуле пад згаданай назвай: " І лепш было б, параіў начальнік РАУС, каб яны "не хадзілі па раёну". З гэтым наказам удзельнікі маршу і былі ***"дэпартыраваныя"*** назад у Магілёў".

Як бачым, выкарыстанне ў дзеясловах іншамоўнага паходжання натуральнага суфікса ***-ава-*** засерагае і ад штучнасці ў фанетычным ( і арфаграфічным) афармленні словаў.

*(Працяг у наст. нумары).*



# ВЫСТАВА МАСТАЧКІ Н.І. ШЧАСНАЙ

З 29 студзеня па 21 лютага ў Нацыянальным мастацкім музеі праходзіла персанальная выстава мастачкі, графіка — Нінэль Іванаўны Шчаснай. Гэтая падзея прымеркавана да 50-годдзя творчай дзейнасці.

Нінэль Іванаўна Шчасная — сябра Саюза мастакоў і Саюза архітэктараў Беларусі, нарадзілася ў Полацку 25 кастрычніка 1933 г. Скончыла Менскае мастацкае вучылішча ў 1954 г., а ў 1961 годзе Ленінградскі інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І.Я.Рэпіна Акадэміі мастацтваў СССР.

Пасля заканчэння жывапіснага факультэта маладая мастачка некалькі гадоў жыла і працавала ў Сярэдняй Азіі, удзельнічала ў рэстаўрацыі будынкаў старажытных дойлідаў, рабіла праекты аздаблення экстэр'ераў і інтэр'ераў сучасных будынкаў і выканала шэраг манументальных работ — у кінатэатры "Электрон" у Нурэку, Доме мадэляў, краме "Спорт", Доме абутку і інш. у Душанбэ. У гэтых творах Н.І.Шчасная выказала сябе як мастак і архітэктар, яна дасягнула арганічнай еднасці, гармоніі манументальных работ, дэкаратыўнага аздаблення з архітэктурным ансамблем. У Душанбэ з'явіліся і яе першыя жывапісныя палотны: "Бухара", "Вяселле", "Дыванщыца", якія насычаны нацыянальным каларытам.

З 1965 года Н.І. Шчасная жыве і працуе ў Менску. У 1966 годзе адбылася яе першая персанальная выстава ў Доме Саюза архітэктараў БССР, а ў 1973 годзе — у Доме Саюза пісьменнікаў БССР.

Персанальная выстава ў Полацку праходзіла з 10 верасня 1981 года па 25 студзеня 1882 года і была прысвечана 20-годдзю выставачнай дзейнасці. Палотны "Самотная", "Ля вогнішча", "Беларуская дзяўчына", "Партрэт І. Мележа" ужо вызначаюцца своеасаблівай, востра-індывідуальнай манерай пісьма, глыбінёй гучання і выразнасцю фарбаў, "малекулярнасцю" і паветранай лёгкасцю.

Н.І Шчасная вядома і, як графік. Яе аўталітаграфіям уласціва абагульненае, сімвалічнае гучанне, яны прываблiваюць лаканічнасцю ці ўсё той жа "малекулярнасцю". Таксама яна аформіла больш за 30 кніг.

Мастачка ізноў звяртаецца да дэкаратыўнаўжытковага мастацтва: выконвае ў Менску роспісы ў кавярні "Планета" і вітражы для грамадскіх будынкаў — інстытута "Белгіпропіцепротпроект", рэстарана "Свіслач", вытворчага аб'яднання "Гарызонт", адлiванае шкло для якіх яна рабіла ўласнаручна.

Чалавек энергічны і творчы, Н.І.Шчасная знаходзіцца ў пастаянным пошуку сродкаў мастакоўскага выказвання. У 1979 - 1980 гадах ёю быў распрацаваны, а ў травені 1980 года зацверджаны Мастацкім фондам СССР новы від "жывапіснага вітража" на палімерных асновах. Таксама яна вынайшла цікавую форму жывапісу на шкловалакне.

Гэтыя якасці душы і таленту дазваляюць мастачцы стварыць запамінальныя цэласныя вобразы, якія поўняцца непаўторнай яркай мяккасцю і пластычнасцю, глыбокім пачуццём, настроем і лірызмам.

Н.І. Шчасная з'яўляецца пастаяннай удзельніцай буйнейшых выставаў. Актыўна займаецца грамадскай дзейнасцю ў Саюзе мастакоў.

У 1989 годзе ёй было нададзена званне Заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі. Творы Н.І. Шчаснай знаходзяцца ў музеях, прыватных зборах рэспублікі, блізкага і далёкага замежжа.

*Вольга Каласоўская, студэнтка 508 групы БУК.*

# Пачуццё самапавагі

З'яўляюся Вашай даўняй чытачкай і хацелася б падзякаваць сваімі ўласнымі ўражаннямі аб перапісе насельніцтва, які нядаўна скончыўся.

18 лютага да нас на кватэру завіталі два хлапцы - перапісчыкі. Калі яны дасталі расейскамоўныя перапісныя лісты, я папрасіла іх узяць беларускамоўныя, на што яны адказалі, што ім гэтых лістоў не давалі. Я адмовілася адказваць і прапанавала хлопцам прыйсці з беларускамоўнымі лістамі ў любы час, таму што я з хворым дзіцем знаходзілася дома.

Але так нікога не дачакалася і 24 лютага ( 23 па афіцыйных звестках перапіс скончыўся) я затэлефанавала ў аддзел міністэрства статыстыкі, які займаўся перапісам. Распавяла сітуацыю і загадчыца аддзела Лікашэвіч С.В., з якой я размаўляла, запэўніла мяне, што беларускіх бланкаў надрукавана шмат, але іх ніхто не патрабуе, і да мяне абавязкова прыйдуць перапісчыкі ў бліжэйшыя дзень-два.

Сапраўды, пад вечар таго ж дня зайшоў адзін з тых хлапцоў. Але зноў прынёс расейскамоўныя бланкі, прычым ужо ім запоўненыя. І на пытанне: "На каком языке разговариваете дома" стаяў адказ: "На русском". Я абурылася: паршае, мы дома размаўляем на беларускай мове, і перапісчыкі гэта цудоўна чулі. Па-другое, я спаслалася на сваё тэлефанаванне ў міністэрства статыстыкі і папрасіла ўзяць беларускамоўныя бланкі.

І што ж вы думаеце, прыйшоўшы ў трэці раз яны прынеслі агульны бланк беларускамоўны, а індывідуальныя — расейскамоўныя !!! Ну, не далі ім, таму што няма! Пасля іх візіту тэлефанавала нейкая супрацоўніца аддзела статыстыкі кастрычніцкага райвыканкама і таксама запэўнівала, што беларускамоўных бланкаў ёсць вельмі шмат.

Мяне асабіста вось гэты чарговы здзек пад назвай "перапіс" прывёў да высновы: зверху спушчаны пэўны сацыяльны заказ на выніка перапісу. І таму я не здзіўлюся, калі тыя лісты, што пісаліся пад маю дыктоўку будуць заменены на тыя, што былі складзены перапісчыкамі загадзя "як патрэбна". Бо асабістага подпісу ў лістах ставіць не трэба было. І для мяне не будзе дзіўным, калі дзяржаўныя сродкі інфармацыі па выніках гэтага "перапісу" распаўсюдзяць інфармацыю, што, напрыклад, на беларускай мове размаўляе 0,000001% насельніцтва Беларусі, а беларусаў у краіне 2,5% і гэтак далей. Ну што ж, як кажуць. Бог ім судзя!

І яшчэ хацелася б падзякаваць з аднадумцамі сваімі меркаваннямі.

Пэўны час назад па адным з расейскіх радыёпрыёмнікаў я пачула наступную па сэнсе інфармацыю: "В Белоруссии снят и выходит на экраны первый белорусский телесериал, посвященный событиям 1863 года. Но фильм снят на русском языке, так как создатели надеются, что фильм будет куплен в России".

Вось гэта пагардлівая абвестка адразу адбіла ў мяне ўсякае жаданне глядзець гэты фільм. Узнікла шмат думак і пачуццяў на гэты конт. Не буду пісаць сваіх разважанняў, гэта заняло б шмат месца і часу, думаю, што мяне разумеюць тыя, каму баліць душа за Беларусь. На каго ж быў разлічаны гэты фільм? Я цікавілася ў многіх, хто звычайна любіць глядзець серыялы, але і яны не глядзелі гэты фільм. Хочацца толькі заўважыць, паважаныя стваральнікі фільма "Проклятый неуютный дом", што калі вы не паважаеце сябе, то вамі будзе пагарджаць кожны, каму захочацца.

Бо мне здаецца гэта так зразумела, што калі чалавек лічыць сябе адукаваным і выхаваным, то якой бы нацыянальнасці ён не быў, гэта справа гонару — ведаць мову народа, на зямлі якога ты жывеш. І з павагай ставіцца да святыняў гэтай зямлі.

А нас, свядомых беларусаў і павінна адрозніваць, і я думаю адрозніване, пачуццё самапавагі і асабістай годнасці. Так мы павінны выхоўваць і сваіх дзяцей. Будзем жыць мы, будзе жыць і Беларусь.

*З павагай Вярбоўская Ірына Леанідаўна.*

# Міхась Мялешка вяртаецца на Беларусь

25 лютага 1999 г. у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, які знаходзіцца ў Верхнім горадзе ў Менску, у будынку былога бернардынскага касцёла XVII ст. была ўрачыста адкрыта выстава "Міхась Мялешка. Доўгае вяртанне ў Беларусь".

Да гэтай выставы вядомы беларускі гісторык і архівіст Віталь Скалабан выдаў цудоўна каталог накладам 40 экз, які адразу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю.

У прадмове да каталогу даецца падрабязная характарыстыка жыццёвага шляху дзеяча беларускага адраджэння першай паловы XX ст. Міхася Вінцэнтавіча Мялешкі, які нарадзіўся ў 1892 г. на Вілейшчыне ў сям'і рыбака. У 1911 годзе ён трапіў у Санкт-Пецярбург, увайшоў у беларускі студэнцкі гурток якім апякаваўся Браніслаў Эпімах - Шыпіла і стаў вывучаць беларускую літаратуру і этнаграфію. Першыя яго публікацыі з'явіліся ў "Нашай Ніве". Потым было царскае войска і першая сусветная вайна. У 1917 годзе ў Віцебску Мялешка ўступае ў Грамаду і становіцца ў 1918 годзе студэнтам археаграфічнага факультэта Віцебскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута.

З 1923 па 1929 год ён адзін з кіраўнікоў архіўнай справы ў БССР, працуе ў Інбелкульце і Беларускай Акадэміі Навук. У гэты час выйшлі яго найбольш цікавыя працы "Сацыялістычны рух на Беларусі ў пракламацыях 1905 г." (1927г.) і "Камень у вераваннях і паданнях беларуса" (1929г.). Аднак лёс яго быў трагічным. Арышт у 1930 годзе, высылка на 5 год у Самару. Зноў арышт і турма ў 1938г. У 1940 годзе цяжка хворы ён выйшаў са сталінскіх засценкаў і ў красавіку 1941 года ціха сканаў у Самары, дзе і быў пахаваны. Доўгі час яго апошнія гады жыцця і нават дата смерці была нікому невядомая. І гэта той чалавек які яшчэ ў далёкім 1915 годзе ў сваім дзённіку 30 верасня запісаў прарочыя словы "Будзе жыць Беларусь!"

І вось дзякуючы нястомнай працы Віталя Скалабана, Ганны Запартыкі і іншых беларускіх архівістаў была знойдзена дачка М. Мялешкі Людміла Міхайлаўна Сакалова, якая зараз жыве ў Санкт-Пецярбурзе і іншыя яго сваякі, высветлены яго самарскі перыяд жыцця, знойдзены унікальныя фотаздымкі ў сямейным архіве дачкі, якія некалі зрабіў сам. Міхась Мялешка.

Людміла Міхайлаўна нягледзячы на свой шаноўны ўзрост (ёй ўжо 75 год) здолела прыехаць у Менск на адкрыццё выставы і сказаць некалькі цёплых слоў пра жыццё і дзейнасць свайго знакамітага бацькі. Нягледзячы на шматлікія пераезды на тэрыторыі былога СССР спадарыня Людміла захавала 49 фотаздымкаў з архіва свайго бацькі і яго каляровы партрэт напісаны ў 1925 годзе знакамітым беларускім мастаком Кругерам. Цікава і тое, што дачка Людміла Міхайлаўна — кампазітар. Яна напісала цыкл песняў "Самарский туесок" на падставе народных песняў, сабраных некалі яе бацькам у ваколіцах Самары.

Пад час адкрыцця выставы акрамя сп. Скалабана, Запартыкі, Сакаловай-Мялешкі выступілі кіраўнік беларускай архіўнай службы сп. Міхальчанка, іншыя вядомыя архівісты Беларусі і нават два студэнты - архівісты 4 курса з гістфака БДУ.

Выстава размешчана на пятым паверсе архіва-музея літаратуры і мастацтва на вуліцы Кірылы і Мяфодзія, 4 і мы запрашаем усіх яе наведаць.

*Алег Трусаў, г.Менск.*

# Сустрэча ў Барысаве

1 сакавіка 1999г. актывісты Кастрычніцкай Рады ТБМ г.Менска арганізавалі сустрэчу вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Арлова і аўтара гэтых радкоў з вучнямі і настаўнікамі Барысаўскай гімназіі № 1. Нягледзячы на тое, што гэта расейскамоўная навучальная ўстанова, настаўнікі здолелі прывіць сваім шматлікім выхаванцам любоў да роднай мовы, гісторыі і культуры, і вялікая актавая зала была запоўнена людзьмі. На гэтую сустрэчу прыйшлі таксама вучні і настаўнікі з іншых барысаўскіх школ і гімназій.

Спачатку я распавёў пра гісторыю стварэння і дзесяцігадовую дзейнасць ТБМ, яго мэты і задачы, пра найбольш цікавыя рубрыкі і публікацыі газеты "Наша слова", а потым Уладзімір Арлоў расказаў пра свой жыццёвы і пісьменніцкі шлях, пра сучасны стан беларускай гістарычнай літаратуры, пра неабходнасць глыбокага вывучэння айчыннай гісторыі.

Пасля сваіх выступаў мы атрымалі з залы некалькі дзесяткаў запісак з пытаннямі самага рознага зместу. Вучняў цікавіла гісторыя роднага Барысава і славутага Мірскага замка, нашыя адносіны да сённяшняй улады, розныя бакі жыццёвага шляху Уладзіміра Арлова і шмат усяго іншага. Не абышлося і без жартаў і гумару. Так, напрыклад, У.Арлоў сярод любімых твораў Міхаіла Булгакава, відаць, пад уздзеяннем чарговай прэзідэнцкай кампаніі па забяспячэнню насельніцтва Беларусі "нормальными человеческими яйцами", назваў аповесць пад назвай "Собачьи яйца", чым выклікаў гамерычны смех прысутных у зале.

Сустрэча доўжылася болей двух гадзінаў запар, і потым У.Арлоў падпісваў вучням свае кнігі, а я раздаваў ім апошнія нумары "Нашага слова", падпісныя квіткі на нашую газету, некаторыя брашуры, выдадзеныя нашым таварыствам у розныя годы. Таксама мы падарылі ў бібліятэку гімназіі некалькі цікавых выданняў, сярод якіх варта адзначыць апошні зборнік публіцыстыкі Васіля Быкава "Крыжовы шлях" і падручнік матэматыкі для 5 класа ў 4-х частках, напісаны па-беларуску Міхасём Булавацкім.

Дарэчы, дзеці цікавіліся адрасам месцазнаходжання Барысаўскай арганізацыі ТБМ, каб у яе уступіць. Таму я раю яе прадстаўнікам тэрмінова завітаць у першую гімназію г. Барысава.

*Першы намеснік старшыні ТБМ імя Ф.Скарыны Алег Трусаў.*

# Канферэнцыі ТБМ і ТБШ ў Лідзе

11 сакавіка 1999 года ў Лідзе прайшлі канферэнцыі Лідскай рэгіянальнай арганізацыі ТБМ імя Францішка Скарыны і Лідскай аб'яднанай арганізацыі ТБШ імя Браніслава Тарашкевіча. На канферэнцыях былі разгледжаны вынікі дзейнасці арганізацыі у 1998 - 1999 гадах. З трывогай успрынялі дэлегаты паведамленне, што сёлета толькі 41 першы і пачатковы клас з 83 вучацца па-беларуску. Упершыню за апошнія гады беларускіх першых (пачатковых) класаў стала ў Лідзе менш 50 працэнтаў. Па колькасці вучняў гэта 47 працэнтаў.

Канферэнцыя ТБМ вызначыла парадак абрання дэлегатаў на VI з'езд ТБМ.

Канферэнцыі вырашылі арганізацыйныя пытанні. Для павышэння апаратыўнасці працы абедзве рады паменшаны да сямі чалавек. Абраны новы старшыня Лідскай аб'яднанай арганізацыі ТБШ. Ім стаў дырэктар Бердаўскай сярэдняй школы Лідскага раёна АнатольКрупа, сябар рэспубліканскай рэвізійнай камісіі ТБШ. Старшынёй Лідскай рэгіянальнай арганізацыі ТБМ застаўся Лявон Анацка.

*Станіслаў Суднік.*



№ 11(396) 17 САКАВІКА 1999 г. наша слова

Людміла Майсеня, Васіль Юфераў

# Знішчэнне беларускай адметнасці ў сферы навуковай тэрміналогіі

## (на прыкладзе матэматычнай тэрміналогіі)

*... Цэльнасць і гармонію народнага слова парушыла чужая граматнасць і чужыя панаванні над народам.*
*В.Ластоўскі*

Актыўнае стварэнне беларускай тэрміналогіі ў розных навуковых галінах пачалося і шырока разгарнулася ў 1920-х гадах, калі быў створаны Інстытут Беларускай Культуры з Тэрміналагічнай камісіяй пры ім. Вынікам дзейнасці гэтай камісіі з'явілася выданне 24-х выпускаў беларускай тэрміналогіі па прыродазнаўчых і тэхнічных дысцыплінах. Спынімся больш падрабязна на сітуацыі, якая датычыць матэматычнай тэрміналогіі, хоць яна характэрная і для астатніх прыродазнаўчых навук.

Пад першым нумарам у серыі тэрміналагічных выданняў Інбелкульта ў 1922 годзе выдадзены слоўнік па элементарнай матэматыцы "Беларуская навуковая тэрміналёгія. Вып.1. Элементарная матэматыка", які выйшаў у працяг выдання "Арытметычная тэрміналёгія. Вільня, 1921." У 1923 годзе вядомыя грамадскія дзеячы К. Дуж-Душэўскі і В. Ластоўскі выдалі слоўнік па геаметрыі і трыганаметрыі. У сваю чаргу, у 1927 годзе выйшаў з друку перапрацаваны і дапоўнены "Слоўнік матэматычнай тэрміналёгіі", які змяшчае 3551 матэматычны тэрмін. Выданне ІнБелКульта.

Названыя тэрміналагічныя распрацоўкі з'явіліся асновай для напісання навучальных дапаможнікаў і падручнікаў таго перыяду, многія з прапанаваных у іх тэрмінаў увайшлі ў агульныя слоўнікі В. Ластоўскага, М. Байкова і С. Некрашэвіча. **Аналіз тагачаснай сітуацыі сведчыць, што ішоў натуральны працэс тэрмінатворчасці, выкліканы да жыцця высокімі мэтамі духоўнай самарэалізацыі беларускай нацыі.** Але не доўга. Пачынаючы з 1937 года амаль усе тэрміналагічныя выданні былі асуджаны на знішчэнне. Сталінскія інквізітары апярэдзілі гітлераўскіх. У Загадзе № 33 Галоўліту БССР ад 3.06. 37г. вызначалася 421 выданне, якія належала ліквідаваць з усіх бібліятэк і спаліць. У гэтым спісе былі і практычна ўсе назва-ныя выданні. Не сталі выключэннем і тэрміналагічныя распрацоўкі па іншых навуковых кірунках, іх пералік у памянёным загадзе займаў пазіцыі з 16-тай па 32-ю. На непасрэднае змаганне з беларускай мовай быў кінуты агонь.

Усё тое, што дайшло да нас як рэалізаваная спадчына ў сферы тэрміналогіі на пачатку 90-х гадоў, мае рэзка зрусіфікаваны характар. Вывучэнне тэрміналогіі школьных падручнікаў (беларускамоўных кніг па матэматыцы для ВНУ на гэтую пару ўжо не выдавалася), а таксама тэрміналогіі БелСЭ і так званых нарматыўных слоўнікаў прыводзіць да высновы, што набыткі тэрмінатворчасці 20-х гадоў амаль цалкам страчаны. Пры гэтым адсочванне характару і храналогіі змяненняў, што адбываліся ў гэтай сферы ўжывання мовы на працягу савецкага перыяду беларускай гісторыі, паказвае на іх гвалтоўны характар. У гэтым можна пераканацца, вывучаючы абсалютна ўсе магчымыя крыніцы функцыявання матэматычнай тэрміналогіі.

У бібліятэках Беларусі захавалася значная колькасць школьных падручнікаў па матэматыцы з 20-30-х гадоў. Сярод іх ёсць, як арыгінальныя, напісаныя беларускімі навукоўцамі і выкладчыкамі, так і перакладзеныя з расейскіх выданняў. Але ўсе гэтыя кнігі аб'ядноўвае скарыстанне адзіных прынцыпаў тэрмінаўтварэння, выказаных у 20-х гадах. Асноўным з іх быў прынцып грунтавання на ўласнабеларускіх моўных сродках з прыцягненнем найбольш сталай інтэрнацыянальнай тэрміналогіі. Трэба сказаць аднак, што працэс стварэння тэрміналогіі ішоў даволі імкліва і паспяхова. Маючы досвед іншых народаў у гэтай сферы, беларускія навукоўцы атрымлівалі магчымасць грунтоўнага аналізу ўжо створаных нацыянальных тэрмінасістэм і лагічнага ўвасаблення іх лепшых набыткаў у сферы беларускай навуковай лексікі.

Адзначым, што наша тэрміналогія на той час не была яшчэ кананізавана, яна ўдакладнялася і ўдасканальвалася на падставе жывой практыкі яе скарыстання. Напрыклад, вядомы зараз тэрмін ***плоскасць*** на тойчас праходзіў апрабацыю як ***плашчына, пласмо, роўніца.*** Не вельмі ўдалыя ***раўнаванне, рабро, вытвар, рэчавісты*** пазней былі адпаведна заменены на ***раўнанне, кант, здабытак, рэчаісны***. Пазітыўным вынікам натуральнага працэсу тэрмінавытворчасці з'явіўся б адбор у сучасную беларускую мову найбольш трапных і зразумелых слоў у якасці навуковых тэрмінаў.

У выніку адпаведнага палітычнага ўціску працэс пайшоў інакш. На мяжы 1933-34-х гадах адбыліся істотныя змяненні тэрміналагічнай сітуацыі, звязаныя з прыняццем сумнавядомай пастановы наконт упарадкавання беларускага правапісу. Гэтая так званая "рэформа правапісу" на самой справе закранула глыбінныя пласты беларускай мовы, змяніла яе фанетыку, навязала элементы расейскамоўнага словаўтварэння, засмеціла беларускую мову расейскай лексікай ў тэрміналагічнай сферы і не толькі ў ёй. У звязку з гэтым можна нагадаць пераклады аднаго і таго ж маскоўскага падручніка Н. Паповай, выдадзеныя ў 1933-м і 1934-м гадах адпаведна. Яны ёсць стэрэатыпныя па змесце, але выглядаюць напісанымі на розных мовах, адасобленых адна ад другой палітычнай мяжою. Пададзім тыя змяненні, што кідаюцца ў вочы з іх першых старонак:

***разьдзел — глава***
***лічыльнікі — шчоты***
***у межах тысячы — у прэдзеле тысячы***
***паказаны квадрат — ізбражон квадрат***
***развязаньне — рашэнне***
***астача — астатак***
***хуткае — быстрае***
***мяшаны лік — змешаны лік***
***акружына — акружнасць***
***раўнаплечы — раўнабедраны.***

Гэта яскравы прыклад грубага, сілавога ўмяшання ў нашу мову з відавочнай мэтай яе русіфікацыі.

Разам з "рэформай правапісу" у выходных звестках кнігаў змяшчаецца інфармацыя пра моўных рэдактараў і моўных карэктараў, што фактычна сведчыла пра ўвядзенне пасады моўнага цэнзара. Паралельна з цэнзурай палітычнай і ідэалагічнай замацоўваўся інстытут філалагічнай цэнзуры. (Традыцыі яго дзейнасці, на жаль, мы адчуваем і сёння).

Напрыканцы 30-х гадоў арыгінальныя беларускія выданні знікаюць разам з іх аўтарамі. Адбываецца поўная уніфікацыя навучальных праграм і зместу школьных падручнікаў па ўсім СССР. Паралельна з гэтым усё больш русіфікуецца і тэрміналогія, з'яўляюцца такія "шэдэўры", як ***адвображанне, трохчлен, ураўненне, пераменная, ўзрастаючая...*** Адначасова з гэтым пачынаецца шырокае ўжыванне для слова - і тэрмінаўтварэння неўласцівых беларускай мове прыставак, канчаткаў і суфіксаў, у прыватнасці такіх, як ***-ір-, -ем-, -уч-, -юч-*** і г.д.

Аналагічны па сваёй логіцы працэс назіраўся ў тэрміналагічнай і выдавецкай дзейнасці для ВНУ. Толькі яшчэ больш трагічны. Звернемся да яго.

Актыўную дзейнасць па распрацоўцы зместу вышэйшай матэматыкі на беларускай мове праводзіў А.Круталевіч, які выдаў дастаткова змястоўныя курсы матэматычных дысцыплін для ВНУ. Гарачымі прыхільнікамі выканання дзяржаўнай праграмы беларусізацыі былі не толькі выхадцы з Беларусі, але і сусветна вядомыя матэматыкі. Належыць згадаць першага прафесара матэматыкі ў Беларусі І. Багаяўленскага, які ў 1919 годзе пераехаў працаваць з Маскоўскага ўніверсітэта ў Горацкую сельгасакадэмію. Курс лекцый І. Багаяўленскага, напісаны на цудоўнай беларускай мове, выдалі вучні і калегі ўжо пасля яго смерці. Гэта быў першы беларускі падручнік па аналітычнай геаметрыі. У 1929 годзе з Аўстрыі ў Менск пераехаў сусветны вядомы матэматык Ц. Бурстын (будучы акадэмік АН БССР). Выдадзены ім "Курс дыфэрэнцыянальнай геамэтрыі" — значная з'ява ў гісторыі беларускай матэматычнай адукацыі. Актыўны ўдзел інтэлігенцыі іншых нацыянальнасцяў у станаўленні беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі сведчыць пра натуральнасць моўнай палітыкі таго перыяду.

Разам з напісаннем арыгінальных дапаможнікаў па матэматыцы беларускімі навукоўцамі быў зроблены таксама пераклад з расейскай мовы падручніка па аналітычнай геаметрыі праф. І.Прывалава. Да ўсіх названых выданняў не дакраналася рука цэнзара, а таму скарыстаная ў іх тэрміналогія захоўвае яркую беларускую адметнасць. Кнігі І Багаяўленскага, Ц. Бурстына, І Прывалава сталі грунтоўнай асновай для навучання геаметрыі ў ВНУ і забяспечылі яе беларускамоўнае выкладанне. Па астатніх матэматычных дысцыплінах гэтага сказаць нельга.

У канцы 30-х гадоў выданне навучальнай і метадычнай літаратуры па матэматыцы для ВНУ згортваецца. Фізічна знішчаюцца і аўтары. Не стала А. Круталевіча. Трагічна скончылася жыццё акадэміка Ц.Бурстына. Ён загінуў у 1938 годзе, падзяліўшы лёс лепшай часткі беларускай інтэлігенцыі.

Апошнія вядомыя нам матэматычныя выданні для ВНУ датаваныя 1935-36 гадамі. Гэта пераклад з расейскай мовы падручніка У.Смірнова. У ім ва ўсёй красе выявіўся новы падыход. Беларуская адметнасць матэматычнай тэрміналогіі і каларыт самой мовы цалкам знікаюць. Тэрміналогія стае цалкам калькаванай з расейскай. Тут мы можам знайсці ўжо больш рашучы крок на зблізжэнне моваў, чым ва ўсіх папярэдніх выданнях. Беларускія тэрміны замяняюцца, фактычна, расейскімі: з'яўляюцца ***точка, ось, прырашчэнне, рашэнне, апрадзяліцель, рад, чотны, пераменная, пастаянная, прэдзел*** і т.п. Аднак нават і ў такім скалечаным выглядзе (які толькі ўмоўна можна назваць беларускім) гэтае выданне ўжо не мела працягу.

Амаль 60 гадоў у Беларусі не выдавалася па-беларуску ніводнага падручніка па матэматыцы ніводнага ні для ВНУ, ні для сярэдніх спецыяльных устаноў. Больш чым на 50 гадоў цалкам было спынена беларускамоўнае выкладанне прыродазнаўчых дысцыплін, у тым ліку і матэматыкі ( за выняткам выкладання па-беларуску падчас фашысцкай акупацыі ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах, некаторыя з якіх імкнуліся набыць статус вышэйшых). У паваенны час трэба казаць пра татальную русіфікацыю вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. З улікам вайны і сталінскіх рэпрэсій 30-х, 40-х, 50-х гадоў яе нельга назваць вынікам натуральнай асіміляцыі. Натуральная повязь педагагічнай практыкі і беларускай тэрмінатворчасці была гвалтоўна разарвана.

Гэтак жа, як у падручніках для школы і ВНУ, беларуская матэматычная тэрміналогія пачынала пашырацца, апрабоўвацца і гарманічна скарыстоўвацца ў навуковых артыкулах і кнігах. Тут да месца ўспомніць навуковыя працы тых жа аўтараў І.Багаяўленскага, Ц.Бурстына, А. Круталевіча. Можна прывесці і іншыя прыклады. Але барацьба з нацдэмакратызмам у хуткім часе дала свой негатыўны плён. Беларуская мова, як мова матэматычнай навукі перастала існаваць. Матэматычная артыкулы па-беларуску не друкаваліся на працягу шасці дзесяцігоддзяў — да ўзнаўлення нашай незалежнасці. Спецыяльны навуковы часопіс "Весці Акадэміі Навук БССР" цягам гэтага часу захоўваў толькі беларускую назву.

Тэрміналагічная сітуацыя , існаваўшая ў пэўны час, безумоўна, знаходзіла сваё адлюстраванне ў агульных слоўніках. Іх вывучэнне дае яскравы матэрыял для пацвярджэння высновы пра ненатуральны характар моўных змяненняў. Прасочым гэта толькі на адным, але вельмі характэрным тэрміне, які адпавядае расейскаму ***решить***. У "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С. Некрашэвіча тэрмін ***решить*** (задачу) перадаецца беларускім аўтэнтычным ***развязаць***, а ***решение*** — як ***развязанне*** (працэс) і ***развязак*** (вынік). Слова ***рашэнне*** (як відавочная транслітарацыя расейскага ***решение***) узнікае ў матэматычнай літаратуры пасля 1933 года: у "Матэматычных працах"(1932 г.) Ц. Бурстына прысутнічае ***вырашэнне***, але ёсць яшчэ і ***развязанне***. У "Русско-белорусском словаре" 1953 года падаюцца яшчэ, як сінонімы словы ***рашыць*** і ***развязаць*** (з уласна беларускім ***развязаць*** на другім месцы). Але ўжо ў "Русско-белорусском словаре" 1982 года слова ***развязаць*** канчаткова выкідаецца, затое ўзнікае такая "пярліна", як ***решенная задача — рэшаная задача***. Такі падыход паступова-імклівага руху ўласна беларускага слова спачатку на другое месца ў якасці сіноніма, а затым і ўвогуле вывядзенне са слоўніка можна знайсці ў мностве выпадкаў.

Пададзены агляд сведчыць пра тое, што на мяжы 1933-34-х гадоў адбылася сапраўдная тэрміналагічная катастрофа, справакаваная палітычнай сістэмай. Асноўнай мэтай змяненняў было набліжэнне тэрміналогіі і самой мовы да расейскай. На беларускую мову мэтанакіравана "накідвалася" характарыстыка яе, як дыялекту расейскай. З непасрэднасцю, што мяжуе з цынізмам, пра гэта заяўлена ў прадмове да "Русско-белорусского словаря" 1953 года: "Труд И.В.Сталина "Марксизм и вопросы языкознания", положивший основание подлинно марксистско-ленинской науке о языке, является основополагающим и в области лексикографии. В свете сталинских работ о словарном составе языка заново был просмотрен и настоящий Русско-белорусский словарь... Беларусские буржуазные националисты стремились засорить белорусский язык искусственными словами, архаизмами, чтобы оторвать белорусский народ от великого русского народа. Но белорусский народ, верный дружбе народов, оберегал чистоту своего языка, пополненяя его из неиссякаемых источников русского языка".

Вялікі мовазнаўца памёр, але справы яго жывуць і да нашых часоў. Зрусіфікаваная матэматычная тэрміналогія працягвае існаваць у афіцыйных нарматыўных слоўніках, напрыклад, у "Русско-белорусском словаре" 1993 года, на якія (па адпрацаванай у былыя часы сістэме) ідзе спасылка рэдактараў і карэктараў пры падрыхтоўцы школьных падручнікаў. Не дзіўна, што становішча з тэрміналогіяй не выпраўляецца і ў новай афіцыйнай Беларускай энцыклапедыі, якая выдаецца з 1996 года. Як і ў яе папярэдніцы БелСЭ, тут у значнай ступені "кансервуецца" зрусіфікаваная тэрміналогія савецкага перыяду. Пры гэтым заўважым, што ўжо падчас незалежнай Рэспублікі Беларусь назапашаны значны досвед скарыстання ўдакладненай тэрміналогіі і ў практыцы выкладання, і ў падручніках для ВНУ, і ў спецыяльных слоўніках, такіх, як "Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы для ВНУ" 1993 года, аўтары Т. Сухая, Р. Еўдакіменка, В. Траццякевіч, Н. Гудзень ды "Русско-белорусский математический словарь" 1993 года, аўтары Я. Радыно, П. Шуба і інш. Што датычыць гэтых выданняў то яны ўзніклі, як вынік грунтоўнага абмеркавання кожнага тэрміну шырокім колам беларускіх матэматыкаў і філолагаў. Аднак жывая моўная практыка і навуковыя даследаванні ў сферы тэрміналогіі апошняга перыяду працягваюць ігнаравацца. Болей за тое, у 1997 годзе (ужо на этапе карэктуры) спынена выданне беларускай Матэматычнай энцыклапедыі. Паводле задумы былога галоўнага рэдактара БелЭн Барыса Сачанкі над ёй працавалі больш за 100 беларускіх матэматыкаў і філолагаў. Аднак і сёння знаходзяцца патрэбныя рэцэнзенты, якія ў сваёй прафесійнай філалагічнай дзейнасці імкнуцца зліквідаваць імкненне навукоўцаў да беларускай адметнасці ў тэрміналогіі. А паколькі Матэматычная энцыклапедыя не ёсць ідэалагічнае выданне, то гэты прыклад сведчыць пра тое, што ідзе змаганне непасрэдна з беларускай мовай. Яна пазбаўляецца магчымасці вяртання да сваіх каранёў і пашырэння на новыя сферы ўжытку. Як і шэсць дзесяцігоддзяў назад, наша мова зноў становіцца катэгорыяй палітычнай.





**Аляксей Сакірка**, аспірант гістарычнага факультэта Кіеўскагаўніверсітэта ім. Тараса Шаўчэнкі

# "Брат наш, рыцар добры і адважны..."

Бясконцыя войны, якімі было напоўнена ХУII стагоддзе, найбольш пазначыліся на гісторыі народаў Цэнтральна-Ўсходняй Еўропы, чые долі і культурныя традыцыі хімерна спляталіся то ў жорсткіх двубоях, то ў цалкам мірнай штодзённасці. Сёння нам нагадваюць пра гэта не толькі нейкія падзеі ці матэрыяльныя сведчанні, але і біяграфіі людзей, іхніх творцаў і ўдзельнікаў. Вывучаючы гісторыю вайсковай справы ХУII ст., усякі час маеш справу з асобамі асаблівага гатунку — тымі, хто ўласнаю шабляю і вострым розумам рабіў нашую гісторыю.

Адным з такіх прыкладаў ёсць род Мурашкаў, які па праву належыць, як беларускай, так і ўкраінскай гісторыі. Паходжанне яго родапачынальніка — казака Дзяніса Мурашкі, на жаль, не зусім яснае. Навесну 1654 года, адразу ж пасля пачатку вайны паміж Масковіяй і Рэччу Паспалітай, на паўднёва-ўсходнюю Беларусь уступіў украінскі корпус на чале з нежынскім палкоўнікам Іванам Залатарэнкам, пасланым ад гетмана Б. Хмяльніцкага на дапамогу царскім войскам. Як дапускаюць гісторыкі, Дзяніс Мурашка быў у складзе аднаго з палкоў і мог паходзіць з украінска-беларускага памежжа.

Акрамя таго, што ў гэтай вайне Хмяльніцкі быў саюзнікам Масковіі, ён меў свой погляд на ўладкаванне беларускіх зямель, плануючы прыбраць іх частку, сумежную з Украінай, пад сваю булаву. Асноўным козырам пры гэтым павінна была выступіць наяўнасць на іх асаблівага казацкага ладу, з уласным кіраўніцтвам, судачынствам і збройнымі сіламі. Украінскія палкоўнікі, якія ўсяляк заахвочвалі ўпісванне "ліцьвінаў" у казацкія рэестры, самі таго не ведаючы, выпусцілі на волю і арганізацыйна аформілі моцны антымаскоўскі рух. Пад уплывам жорсткай акупацыйнай палітыкі маскавітаў, ужо напрыканцы 1654 года паўстанцкія загоны адкрыта выступаюць супраць ваяводскай улады, абараняючы ўласныя вёскі і мястэчкі ад марадзёраў, адбіваючы палонных.

Якраз у гэты час з'яўляюцца першыя звесткі пра казацкае войска Дзяніса Мурашкі, якое дзейнічала на тэрыторыі Менскага і Навагрудскага ваяводстваў. Пераважную яго частку складалі "ШЫШЫ" — сяляне, якіх змусілі ўцякаць у лясы пастоі маскоўскага войска і голад, але было нямала казакаў, нават шляхты. У войску існавала камандная іерархія, падзел на сотні (у пяхоце) і харугвы (у конніцы), кожная з якіх мела штандары і "бубны".



Іван Выгоўскі

Напачатку мурашкаўцы (так іх называлі ў сваіх данясеннях царскія ўраднікі) нападалі на маёнткі "прысяжнай" шляхты (шляхты, якая прынесла прысягу на вернасць маскоўскаму цару. С.С.), абозы маскоўскіх фуражыраў, перахоплівалі ганцоў, прытрымліваючыся партызанскай тактыкі. З ростам ліку іхніх загонаў выраслі і маштабы вайны: у 1657 годзе Мурашка падпісвае свае лісты ўжо, як наказны палкоўнік беларускі, а яго сілы кантралююць Менскі і Ашмянскі паветы. Партызаны адбіваюць у акупантаў нявольнікаў, не пускаюць да маскоўскіх залогаў транспарты з правіянтам. На поўдні Менскага ваяводства пад кантролем іхніх дазораў апынуліся амаль усе гандлёвыя тракты. У выніку гэтых дзеянняў мясцовая шляхта, што была перайшла "пад высокую гасудараву руку", вяртаецца на бок літоўскага гетмана Сапегі.

Змена знешнепалітычнай сітуацыі наступнага 1658 года адкрыла перад Мурашкам новыя перспектывы. У гэты час новаабраны ўкраінскі гетман Іван Выгоўскі (беларускі шляхціц па паходжанню С.С.), які заступіў нябожчыка Хмяльніцкага, распачынае перамовы з палякамі на прадмет уключэння Украіны ў якасці раўнапраўнага сябра ў склад Рэчы Паспалітай. У верасні занепакоены хваляваннямі шляхты і казакаў ваявода Даўгарукі пісаў цару, што паводле дакладнай інфармацыі, Мурашка дзейнічае супольна з украінскімі казакамі Іваня Нячая і "ратных людзей тваіх пабівае". Такі саюз абазначаў, што практычна ўсе заваёвы Масковіі ў гэтай частцы Беларусі зводзілася на нішто. У тым выпадку, калі б царскія войскі выступілі супраць Выгоўскага, Мурашка і Нячай павінны былі затрымаць іх між Беразінаю і Дняпром, чакаючы на падмогу з Украіны. З 1659 года беларуска-украінскія аддзелы злучыліся з войскамі Кміціца і Аскеркі, ваявалі пад Магілёвам і Мсціслаўлем.

Не вядома, як бы павярнуліся справы, каб не параза планаў Выгоўскага на Ўкраіне, дзе яго месца заняў сын Багдана Хмяльніцкага Юры, вярнуўшыся ў маскоўскае падданства. Спецыяльны пункт новых дамоўных артыкулаў прадпісваў гетману неадкладна вывесці ўсе казацкія аддзелы з Беларусі і неадкладна прыпыніць зносіны з ватажкамі тамашніх казакаў. Мурашка спрабаваў быў прыйсці на дапамогу абложанаму ў Старым Быхаве Нячаю, які не падпарадкоўваўся царскім наказам, але не паспеў. Пазбаўлены падтрымкі ўкраінскіх "чаркасаў" (так сапраўды называлі казакаў на Беларусі С.С.), паўстанцкі рух, тым не менш, прадаўжаў заставацца істотным чыннікам польска-расейскай вайны і ўплываў на яе пералом. Заслугі ў ёй Дзяніса Мурашкі былі адзначаны каронным урадам наданнем маёнтку ў Віцебскім ваяводстве і прысваеннем яго роду шляхецкай годнасці.

Аднак пасля завяршэння вайны і ўкладання Андрусаўскага замірэння свавольная і непакорная беларуская казаччына зрабілася вельмі нязручнаю для літоўска-польскіх улад. У гэты час на арэне з'яўляецца сын Дзяніса Мурашкі — Андрэй, які спачатку ачаляе паўстанцкую харугву, а трохі счакаўшы і цэлы полк, які мяркуючы з данясенняў, складалі "шышы" і казакі яго бацькі. Ці не адзіным паратункам ад пераследу было перасяленне на суседнюю Украіну, з якою паўстанцаў яднала не толькі баявыя, але і сямейныя сувязі. Сам Андрэй Мурашка меў асабістыя кантакты з чарнігаўскім палкоўнікам Дзям'янам Мнагагрэшным, які ў 1669 годзе быў абраны гетманам Левабярэжнай Украіны. Мнагагрэшны не пакідаючы маскоўскай арыентацыі, праводзіў жорсткую цэнтралізацыйную палітыку, намагаючыся умацаваць дзяржаўныя інстытуты, стабілізаваць сацыяльна-палітычнае і эканамічнае становішча краіны. Асноўнаю яго апораю было чатырохтысячнае "ахвотніцкае" (найманае) войска, якое ўтрымоўвалася на пастаяннай аснове за кошт скарбніцы. "Зацягвалі" ў яго пераважна беззямельных казакаў, выхадцаў з розных станаў і суседніх зямель. Таму мурашкаўцам, якія за сваё жыццё больш часу правялі ў сядле чым за плугам, такая служба (якая тым больш добра аплачвалася) падалася досыць прывабнаю. У лютым 1669 года полк перайшоў на Украіну, прыняўшы гетманскую пратэкцыю, і віхор вайны зноў падхоплівае Андрэя Мурашку: у сакавіку яго палчане збройнаю рукой падтрымліваюць элекцыю гетмана Мнагагрэшнага і нахіляюць пад яго булаву іншыя казацкія палкі. Улетку Мурашка б'ецца з войскамі палкоўнікаў, якія адмовіліся прызнаваць уладу Мнагагрэшнага, удзельнічае ў пераможнай бітве пад Лохвіцаю. Яго конныя "ахвотнікі" стаяць залогамі ў паўднёвых правінцыях, "каб непаслушныя палкі прывесці да паслушэнства", адбіваюць напады крымскіх татар. За верную службу палкоўнік пажалаваны сялом Баршчэвым у Пагарскай сотні Старадубскага палка.

Асоба Андрэя Мурашкі, добра вядомая ў асяроддзі беларускай шляхты, павінна была адыгрываць важную ролю ў планах гетмана, які, як і яго папярэднікі, усё яшчэ не адмаўляўся ад далучэння да сваіх уладанняў паўднёва-усходняй Беларусі. Раскінуўшыся на Чарнігаўшчыне для збірання "стацый" (правізіі), Мурашка выразае літоўскі кардон і пустошыць ваколіцы Мазыра, Рэчыцы, Лоева, даходзіць з коннымі харугвамі да Слуцка і Турава. Гэтыя рэйды былі арганізаваны з ведама Мнагагрэшнага і паслужылі своеасаблівым пралогам да будучых беларускіх дзеянняў гетмана (пазней ён вёў перамовы пра падданства з гомельскаю і мсціслаўскаю шляхтаю, і, нават, захапіў некалькі памежных пунктаў за Сожам).

Трэба адзначыць, што Андрэй Мурашка займаў цалкам асобнае і досыць высокае мейсца пры двары, карыстаючыся поўным даверам гетмана, пра што сведчаць даносы на яго апазіцыйна настроенай старшыны і недабразычліўцаў. Абвінавачваючы астатняга ў падрыхтоўцы антымаскоўскага паўстання, яны пісалі цару: "Мінулай восені, неяк вечарам, узяў ён Дзёмка Андрэя Мурашку да сябе, і перад абразом прасвятой Багародзіцы сумленнем яго абавязаў, каб нікому не адкрыць, казаў: убачыш, што я Маскве ўчыню і ўбачыш маю шаблю ў крыві маскоўскай". Патрабуючы ў гэтай справе падтрымкі "Літвы", гетман вымагаў: "Толькі вы будзьце пры мне неадступныя". Мажліва, што каб беларускія казакі былі поруч з гетманам, гэта дзейна перашкодзіла б змоўнікам арыштаваць яго вясною 1672 года. Прагетманскае партыя была разгромлена, Мурашку ўвязнілі, распусціўшы яго найманы полк "ахвотнікаў". Аднак, патрэба ў іх вынікла і досыць хутка.



М. Кулеша. Гетман. 1840-я г.г.

Новаабраны гетман Іван Самайловіч, які праводзіў палітычны курс, аналагічны папярэдняму, запатрабаваў надзейнай вайсковай апоры, а тым больш дасведчаных камандзіраў, на якіх можна было б абаперціся ў цяжкую хвіліну. Акрамя таго перад Украінаю ўжо выразна вымалёўваўся новы супраціўнік — Асманская імперыя, — які прагнуў авалодаць яе правабярэжнаю часткаю. Андрэю Мурашку зноў даручана ўкамплектаваць найманы полк, пад штандартам якога сабралася нямала колішніх беларускіх казакоў і "шышоў". Улетку іх перакідваюць у фартэцу Ладыжын, якой пагражалі войскі турэцкага візіра і крымскага хана. Як толькі найманцы ўвайшлі ў яе, іх аблажылі туркі, выпалілі пасады і пачалі безперапынны абстрэл горада. "Ліцьвіны" разам з брацлаўскімі казакамі зачыніліся ў верхнім замку і, нягледзячы на нястачу вады і боепрыпасаў, смела адбівалі атакі абложнікаў. Разам з тым сілы былі надта няроўнымі, акрамя таго напужаныя ладыжынцы баяліся далей чыніць апор раз'юшаным туркам, якія пагражалі выразаць да нагі ўсіх жыхароў. Абаронцы здаліся на ласку пераможцаў... Усе акрамя палка Андрэя Мурашкі, які яшчэ колькі дзён бараніў ладыжынскі замак і быў цалкам знішчаны. Паводле версіі аднаго са шматлікіх пераказаў пра падзеі аблогі, Мурашку з дваццаццю іншымі казакамі захапілі жыўцом і даставілі ў стаўку візіра, дапытваючы, ці шмат украінскіх войск ідзе на падмогу. Той ганарова адказвае: так шмат, што яны могуць знішчыць не толькі візіра і хана, але і самога султана і так заўзята лаяў туркаў і магаметанскую веру, што разгневаны візір загадаў сцяць яму галаву.

Паводле іншай легенды прычынаю жорсткасці туркаў стала тое, што мурашкаўцы паланілі султанскага сына, якога насуперак умаленням абложнікаў, Андрэй уласнаручна страціў у двары свайго дома.

Так ці інакш, але гераічная абарона Ладыжына стала настолькі легендарнаю падзеяю ў гісторыі Украіны, што яе памятаюць і зараз. Напрыканцы ж бурнага ХУII стагоддзя постаць Андрэя Мурашкі "брата нашага, рыцара добрага і адважнага, што за добрае здароўе Айчыны жыццё сваё паклаў", пра якога пісалі ўсе тагачасныя казацкія летапісцы, была сапраўдным эталонам ваяцкага гонару. і палкаводніцкай спраўнасці... Думаецца, што для нашых продкаў такая ацэнка жыццёвага шляху чалавека, нават, калі пасля яго не засталося магільнай пліты і выявы, была найвышэйшаю. Арэол неўміручай славы сціраў для іх нават неўкраінскае паходжанне Мурашкаў, шляхціцаў Вялікага Княства Літоўскага, палкоўнікаў беларускіх і ахвотніцкіх...

*Пераклад з украінскай Станіслава Судніка.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 15. 03. 99 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 606 .
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 5 000 руб.